*У бліжэйшыя два-тры тыдні можна падпісацца на «Народную Волю», з тым каб атрымліваць газету з 1 верасня. Вас чакаюць на пошце!*

# Народная Воля

**№ 62 (3803)**

9 жніўня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЗА ПРАХАДНОЙ...

# Ці была забастоўка?

## *На заводзе «Транзістар» вытворчага аб'яднання «Інтэграл» рабочыя незадаволены зарплатай.*

— На заводзе "Транзістар" забастоўка! — патэлефанаваў учора ў рэдакцыю "Народнай Волі" ўзрушаны мужчына. — Атрымаўшы разліковыя лісткі, супрацоўнікі цэха малой зборкі і ваеннай зборкі адмовіліся прыступіць да працы. Людзі больш не хочуць працаваць за 2 мільёны 300 тысяч — 2 мільёны 500 тысяч рублёў.

Званок быў ананімы, але мы вырашылі адысці ад рэдакцыйнага прынцыпу не друкаваць ананімак і высвятліць, што ж адбываецца на заводзе. Пра тое, што флагман айчыннай мікраэлектронікі завод "Інтэграл" перажывае цяжкія часы, вядома ўсім. Яшчэ ў 2009 годзе Аляксандр Лукашэнка, наведваючы прадпрыемства, загадаў навесці там парадак. Што ж атрымліваецца: мінула 4 гады, а заробкі на прадпрыемстве не дасягаюць і 300 долараў?!

Кіраўніцтва завода "Транзістар" сцвярджае, што нічога форс-мажорнага на прадпрыемстве не адбываецца.

— Ніякага страйку не было, — заявіў намеснік дырэктара па вытворчасці **Андрэй Чуклай**. — Была размова, пасля якой усе прыступілі да працы... Усе пытанні хутка вырашыліся без канфлікту. Але яшчэ раз падкрэслю: гэта не страйк, хутчэй неразуменне адзін аднаго, такое здараецца калі-нікалі.

— **Адміністрацыя паабяцала рабочым павысіць зарплату?**

— Гэта наша ўнутраная справа, якую мы будзем вырашаць самі. Зараз усе працуюць.

Пытанне пра сярэдні заробак на прадпрыемстве Андрэй Чуклай таксама пакінуў без адказу.

Кіраўнік аднаго з упраўленняў "Транзістара", які папрасіў не называць яго прозвішча, так ахарактарызаваў сітуацыю на заводзе:

*— Маленькая зарплата і, як следства, цякучка кадраў — гэта праблема ўсяго завода "Транзістар", які, па сутнасці, як завод сёння ўжо не існуе. "Транзістар" — гэта адзінка ААТ "Інтэграл". Завод пазбаўлены свайго рахунку ў банку, дырэктар прадпрыемства практычна ні на што не можа паўплываць, асабліва што тычыцца рашэння пытанняў, звязаных з фінансамі.*

*У нас сёння прынцып такі: грошы трэба зарабляць. Зборачны цэх, дзе былі хваляванні, працуе на здзельшчыне: колькі атрымалі заказаў, столькі і зрабілі і, адпаведна, столькі ж зарабілі. Магчыма, у мінулым месяцы працы ў іх не было, таму і выйшлі такія заробкі — 2,5 мільёна. У сярэднім рабочыя на "Транзістары" атрымліваюць 4—5 мільёнаў зарплаты, усё залежыць ад узроўню кваліфікацыі.*

ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

## *Генадзь ФЯДЫНІЧ: «Дырэктары навучыліся тушыць пажар»*

*Канфлікты ў працоўных калектывах, падобныя на той, што адбыўся на мінскім "Транзістары" ААТ "Інтэграл", час ад часу здараюцца і на іншых беларускіх прадпрыемствах. Ці ёсць пэўныя вынікі ад такіх пратэстаў?*

— Супрацоўнікі на "Інтэграле" вельмі рэдка выступаюць з пратэстамі, — каменціруе сітуацыю старшыня Беларускага незалежнага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці **Генадзь Фядыніч**. — Мабыць, сітуацыя была даведзена да крайнасці, калі хай і стыхійна, але вырашылі ўзбунтавацца. Магчыма, нейкага выніку рабочыя дамагліся. Пытанне толькі ў тым, як надоўга.

Справа ў тым, што кіраўнікі прадпрыемстваў баяцца публічнасці, баяцца, што пра нейкія ўнутраныя праблемы стане вядома за сценамі прадпрыемства. І, калі ўзнікае пытанне альбо аб зарплаце, альбо аб ахове працы, яны тут жа абяцаюць, літаральна клянуцца, усё вырашыць, усё зрабіць. Але праз дзве гадзіны могуць спакойна забыцца аб дадзеным слове або выканаць свае абяцанні напалову: частку грошай даць пратэстоўцам, а частку паабяцаць на потым. Таму вельмі важна, як працуюць прафсаюзныя арганізацыі. Яны павінны быць незалежнымі, стаяць на баку работнікаў, а не наймальніка. На "Інтэграле" незалежных прафсаюзаў няма. А афіцыйныя прафсаюзныя камітэты ствараюцца для таго, каб тушыць разам з кіраўнікамі пажар незадаволенасці. Дырэктары навучыліся тушыць пажар. Але, як правіла, збіць агонь атрымліваецца, аднак тлець ён можа вельмі доўга, да наступнага разу. Таму стыхійныя страйкі не рэдкасць на такіх вялікіх прадпрыемствах, як МАЗ, МТЗ, ды і на іншых.

Ніхто сёння не хоча ўвайсці ў становішча работніка, які вымушаны ў спякоту ішачыць за 2—3 мільёны зарплаты. Але нашы людзі вельмі цярплівыя. Я гэта называю бязглуздай талерантнасцю. Толькі калі працоўныя даведзены да адчаю, яны, як на "Інтэграле", пачынаюць стыхійна страйкаваць. А цярпець не трэба, таму што чым менш будуць цярпець, тым большага могуць дамагчыся.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## *Пра байкот — не гаварыць*

На гэтым тыдні з удзелам кіраўніка дзяржавы адбылася нарада па абмеркаванні змен у выбарчае заканадаўства.

Пра тыя выбарчыя свабоды, пры якіх сам Аляксандр Лукашэнка прыйшоў да ўлады, ён зараз і чуць не хоча. Падрыхтаваныя папраўкі ў асноўным нязначныя. Напрыклад, вырашана дазволіць крыху павялічыць выбарчыя фонды кандыдатаў, вось толькі грошы яны павінны будуць шукаць самі. Альбо пры выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў дазволіць, каб у акруговых камісіях былі члены з правам дарадчага голасу, але без права галасаваць.

Самая сур'ёзная змена, якая рыхтуецца, гэта забарона байкоту выбараў. Падобна на тое, што гэта слова нават не дазволяць вымаўляць. Вось што патлумачыла на гэты конт старшыня Цэнтрвыбаркама **Лідзія Ярмошына:**

— Была вельмі маленькая рэмарка ў выбарчым заканадаўстве, якая дазваляла агітацыю за байкот. Зараз яна проста выдаляецца. Прычым забарона на такую агітацыю тычыцца не толькі кандыдата на любую выбарчую пасаду, але і любога выбаршчыка. Калі асобы будуць такую агітацыю праводзіць, то на іх будзе складацца адміністрацыйны пратакол, яны будуць прыцягвацца судом да адміністрацыйнай адказнасці — штрафу.

Атрымліваецца, што без пагрозы штрафу хутка нельга будзе нават выказацца ў тым сэнсе, што "на такія выбары і хадзіць няма чаго".

**_За навучанне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце трэба плаціць больш, чым за навучанне ў Сарбоне._**

**_Ужо 70 працэнтаў беларускіх студэнтаў вымушаны плаціць за тое, каб атрымаць адукацыю ў вышэйшых навучальных установах._**

**_А як жа з сацыяльна арыентаванай палітыкай, пра якую ўвесь час кажа Аляксандр Лукашэнка?_**

МЫ — БЕЛАРУСЫ



# *Наш сцяг*

**Тысячу подпісаў за ўключэнне бел-чырвона-белага сцяга ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў у мінулы чацвер былі перададзены ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**

**Як зазначыў адзін з ініцыятараў кампаніі, дырэктар "Арт Сядзібы" Павел Белавус, большасць подпісаў была сабрана ў Мінску. Аднак на ініцыятыву адгукнуліся таксама жыхары Дзятлава, Чэрвеня, Маладзечна, Вілейкі, Клецка, Гродна, Магілёва, Віцебска, Гомеля і іншых гарадоў.**

**У звароце да міністра культуры змяшчаецца просьба "паўторна разгледзець пытанне ўключэння бел-чырвона-белага сцяга ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь альбо надання іншага статусу гэтай нацыянальнай святыні, статус якой цяпер ніяк не абазначаны".**

**Ініцыятары кампаніі нагадваюць уладам, што бел-чырвона-белы сцяг мае даўнюю гісторыю, быў дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь з 1991 па 1995 год. Яны лічаць, што наданне яму адпаведнага статусу "будзе спрыяць прымірэнню, узаемаразуменню і міру на беларускай зямлі".**

**У 2010 годзе Міністэрства культуры ўжо давала адказ на аналагічны зварот. Тады яно не палічыла неабходным уносіць бел-чырвона-белы сцяг у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, спаслаўшыся на тое, што сцяг стаў знакам Беларускай Народнай Рэспублікі па прапанове дзяржаўнага сакратара БНР Клаўдзія Дуж-Душэўскага толькі на пачатку 1919 года.**

ПАД ГРАДУСАМ

## *Рэкордная спёка*

Надвор'е ў Беларусі фарміруе гарачае паветра трапічных шырот, у краіну прыйшла моцная спёка, якая нясе небяспеку здароўю.

Сёння, 9 жніўня, у Брэсцкай вобласці абвешчаны чырвоны ўзровень небяспекі, на астатняй тэрыторыі Беларусі — аранжавы.

Як паведамілі ў Беларускім рэспубліканскім гідраметэацэнтры, у цэлым па краіне тэмпература паветра ўначы складзе плюс 15—22 градусы, днём будзе ад 30 да 34, на паўднёвым захадзе краіны — да 35 градусаў вышэй за нуль.

На выхадныя трапічныя паветраныя масы пасуне атмасферны фронт з Заходняй Еўропы. Ноччу па захадзе, днём і ў цэнтральных раёнах чакаюцца кароткачасовыя дажджы, навальніцы, месцамі моцныя ліўні, град, пры навальніцах месцамі шквалісты вецер. Але тэмпература не спадзе: ноччу 17—22, днём — да 34 градусаў цяпла.

ПАДЛІЧЫЛІ

## *Дзе жывуць самыя бедныя беларусы?*

*Па апошніх даных Белстата, геаграфія найменшых заробкаў перамясцілася на Радзіму Аляксандра Лукашэнкі.*

*У цэлым жа гэта прыкрая дзясятка самых бедных выглядае так:*

| Раёны | Сярэдняя зарплата ў маі 2013 года |
|---|---|
| Краснапольскі | 3.358.000 |
| Браслаўскі | 3.392.000 |
| Лоеўскі | 3.464.000 |
| Хоцімскі | 3.496.000 |
| Слаўгарадскі | 3.499.000 |
| Столінскі | 3.523.000 |
| Кармянскі | 3.544.000 |
| Мсціслаўскі | 3.549.000 |
| Шумілінскі | 3.563.000 |
| Маларыцкі | 3.574.000 |

ГАРАЧАЯ ТЭМА

# Знішчыць цалкам?

## *Фермеры патрабуюць ад міністра сельскай гаспадаркі Леаніда Зайца правесці "Прамую лінію" ў жывым эфіры тэлебачання і адказаць на пытанні жыхароў наконт эпідэміі афрыканскай чумы свіней.*

Больш за месяц, як у Беларусі зафіксавана чума свіней, аднак дагэтуль няма інфармавання насельніцтва нават на прымітыўным узроўні. Праўда, з'явіліся чарговыя загады наконт стварэння буферных зон вакол дзяржаўных свінакомплексаў, і людзі разумеюць, што гэта толькі пачатак наступу на гаспадарку. Хто ў такой сітуацыі павінен патлумачыць насельніцтву прававыя аспекты праблемы? Хто павінен вызначыць памер паўнавартаснай кампенсацыі за знішчаную скаціну? Хто панясе адказнасць за знішчэнне здаровых свіней па-за зонай карантыну?

Фермеры і ветэрынары, якіх сабралі за "круглым сталом" сябры аргкамітэта па стварэнні партыі БХД, пасля абмеркавання праблемы АЧС у краіне выступілі са зваротам да Савета міністраў, Міністэрства сельскай гаспадаркі і Генеральнай пракуратуры. Сярод іншага яны патрабуюць у трохдзённы тэрмін апублікаваць поўны і ясны план урада па барацьбе з АЧС. Фермеры патрабуюць ад міністра сельскай гаспадаркі да 12 жніўня правесці "Прамую лінію" ў жывым эфіры тэлебачання і адказаць на пытанні людзей. Акрамя таго, фермеры выступаюць за вызначэнне кампенсацыі за знішчаных свіней з улікам рын准ных коштаў, спыненне практыкі знішчэння скаціны на тых тэрыторыях, якія не належаць да 5-кіламетровай зоны вакол свінакомплексаў або зоны паражэння вакол ачагоў захворвання. Ад пракуратуры сяляне патрабуюць прыцягнуць да адказнасці асоб, якія дзейнічалі не ў адпаведнасці з заканадаўчымі нормамі.

Фермер **Багуслаў Мацук** з Міёрскага раёна кажа:

*— У нас два буйныя комплексы. Адзін побач з вёскай, дзе жывуць каля тысячы чалавек. Мне патэлефанаваў адтуль мой прыяцель-фермер і кажа: "Вазьмі ты маіх свіней, бо знішчаць жа". А цяпер і я не магу іх узяць, бо ўжо ж пайшлі абяцанні пра 20-кіламетровую буферную зону. Цяпер усім стала ясна, што папросту ўлады хочуць знішчыць хатнюю гаспадарку цалкам. Потым нешта прыдумаюць пра кароў, дойдуць і да птушкі. А як людзям пражыць і пракарміць сям'ю за паўтара мільёна рублёў?! Якія ў калгасах заробкі?!*

**Міхась Новік**, фермер з Пружанскага раёна, дадае:

*— Адбываецца поўнае сваволле. У нашай вёсцы ветэрынар вазіў паперу пад роспіс, каб мы самі знішчалі скаціну. Многія напісалі: "Адмаўляюся". Прыехалі, пачалі ў двары ўрывацца. Навошта так рабіць? У аднаго нашага фермера 100 свіней. Ён ужо палову знішчыў, нешта прадаў. У Кавалях спрабавалі выразаць тых свіней, якіх людзі не выразалі самі. Дык да боек даходзіла. У вёсцы Ніжняе Чарняхова выразалі адну вуліцу, на якой у адным двары захварэў парсюк. А мужык узяў з яго кавалачак мяса і адвёз паціхаму на экспертызу. Дык высветлілася, што ў парсюка была звычайная "чырвонка". Людзі так абураліся, што нават зварот у суд напісалі. Дык прыехалі "таварышы" і ледзь "пераканалі" пагрозамі. Тое, што пагалоўе вырашана знішчыць, бачна па тых аграгарадках, якія пабудавалі і будуюць. Там жа нічога не прадугледжана для прыватнай гаспадаркі. Хочуць адбіць у народа гэтую традыцыю ўвогуле. Так што за кароў, я ўпэўнены, таксама возьмуцца. А паглядзіце, які комплекс для кароў у Вараневічах. Там такі падзёж! Вязуць і вязуць туды хімію розную, каб лячыць іх. А потым людзям тое малако піць ды мяса есці?!*

**Віктар Петэшыц** са Свіслацкага раёна пагадзіўся, што ўсё робіцца для ліквідацыі прыватнай гаспадаркі:

*— Я быў у раённай ветстанцыі. Там катастрафічна не хапае людзей. Ніякай інфармацыі няма. Толькі і сказалі, што да 1 верасня трэба самім рэзаць скот, бо хто гэтага не зробіць, той потым ніякай кампенсацыі не атрымае ўвогуле.*

**Алена Варабей** з вёскі Еськаўцы ледзь стрымлівае слёзы:

*— У мяне пяцёра дзяцей, яшчэ і ўнучка. Заробак 1 мільён 400 тысяч. Як я без гаспадаркі пражыву? Што мне іх кампенсацыя па 18 тысяч за кілаграм мяса? Я за такія грошы куплю кілаграм мяса ў краме?! Ды і ці можна яго са сваім хатнім параўнаць? А парсючкоў маленькіх мы набывалі на рынку па 600—700 тысяч. Цяпер жа яны маленькія па 20—30 кілаграмаў. А яны па вазе мне кампенсацыю будуць даваць тую? Дык а хто мне тады верне паўтара мільёна за кожную пару? Хочуць нас поўнымі жабракамі зрабіць, і ўсё з-за таго, што панабудавалі тых комплексаў і цяпер хочуць, каб мы тое мяса куплялі.*

Ветэрынар **Аляксей Цюлькоў** лічыць, што ў інфармацыйным вакууме праблему вырашыць будзе немагчыма:

*— Не проста ж так кажуць, што доктар лечыць чалавека, а ветэрынар — чалавецтва. Тое, што некаторыя сяляне ў цяперашняй сітуацыі кідаюць здохлых свіней у рэчкі ці закопваюць у лесе, можа абярнуцца для нас катастрофай. АЧС для людзей не страшная, а вось з такіх самаробных могільнікаў можа сыходзіць сапраўдная небяспека, напрыклад, сібірская язва. Усё павінна рабіцца ў комплексе. Хто падумаў пра якія нормы, калі побач з населенымі пунктамі будаваліся свінакомплексы? Тое, што АЧС ёсць у Беларусі, я казаў яшчэ ў маі. Трэба мець план мерапрыемстваў барацьбы з інфекцыяй. У Іспаніі з АЧС змагаліся 20 гадоў. Чаму не скарыстацца іх досведам? Пакуль не будзе належным чынам апавяшчацца насельніцтва, пакуль не перастануць хаваць праўду, нічога не зменіцца. Канешне, улады баяцца прызнаць, што ў той ці іншай вобласці выяўлена АЧС, бо гэта забарона на экспарт. А свінакомплексы разлічаны на экспарт. А хто тады будзе набываць іх прадукцыю? Натуральна, мясцовае насельніцтва, то бок мы. Як ліквідаваць эпідэмію, калі ў нас катастрафічна бракуе ветэрынараў? А хто пойдзе працаваць у такіх умовах ды за жабрацкі заробак? Паглядзіце, якія недаборы на гэтыя спецыяльнасці. Ды яшчэ ў адрозненне ад іншых краін у нас ва ўмовах неэфектыўнай сельскай гаспадаркі ветэрынарная служба не з'яўляецца незалежнай. Ветэрынар залежыць ад гаспадаркі, дзе ён працуе. Трэба тэрмінова вырашаць сітуацыю, бо будзе позна.*

Згодна з заявай, прынятай удзельнікамі "круглага стала", у выпадку невыканання патрабаванняў фермераў яны пакідаюць за сабой права на самаарганізацыю і агульнанацыянальную кампанію пратэсту.

Пакуль не вядома, наколькі сур'ёзна будзе ўспрыняты зварот фермераў. Ці будуць задаволены іх патрабаванні? Пакуль не зразумела, ці існуе рэальная пагроза сялянскіх бунтаў. Можа, яшчэ можна вырашыць "свінскую" праблему па-чалавечы?

**Любоў ЛУНЁВА.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Поставили на счетчик

На нынешний и следующий 2014 год приходится пик выплат Беларуси по внешнему государственному долгу — по три с лишним миллиарда долларов на каждый из них. Отдавать долги всегда неприятно, а в нашей ситуации — особенно.

Внешний и внутренний государственный долг Беларуси, то есть долг правительства, на 1 июля 2013 года составил в белорусских рублях 139,9 триллиона и вырос за полугодие на 8,6% (на 11,1 триллиона). В основном за счет роста внешней государственной задолженности. Внешний государственный долг в долларах (а его и отдавать надо в валюте) сегодня 12,4 миллиарда. Совокупный, или валовой, внешний долг Беларуси в иностранной валюте, включающий обязательства всех резидентов (правительства, органов денежно-кредитного регулирования и других секторов экономики), достиг рекордной для страны суммы — 34,5 миллиарда долларов, что составляет около 53% ВВП.

Непосвященный человек в этих долгах может запутаться. Занимает правительство, как правило, в лице Министерства финансов, — долг государственный; занимают другие, в том числе банки, предприятия, — долг называют корпоративным. Тот и другой составляют валовой долг. Другой вопрос, где и у кого занимают. Если внутри страны, у своих предприятий-резидентов и населения, — долг образуется внутренний. Если за рубежом, то внешний. Важно и то, в какой валюте одалживать средства. Когда в своей, национальной (а это, главным образом, займы государства внутри страны), то всегда можно, если что, вернуть кредиторам-резидентам, как говорят, подпечатав рублей. Чего не сделаешь с валютой. Поэтому долги в валюте всегда самые опасные. Не справишься с ними в срок — поставишь на счетчик другие поколения. Чтобы этого не произошло, для измерения соответствующих рисков выработали критерии. Например, внешний государственный долг не должен превышать 50—60% ВВП страны.

Долги в экономике — обычное дело, без кредитов ни одна экономика не работает. Но долги надо отдавать. Наши основные кредиторы — это Россия и МВФ. Только в 2013 году Беларусь привлекла внешние госзаймы на общую сумму 1 миллиард 375,4 миллиона долларов. В том числе 880 миллиона долларов по кредиту Антикризисного фонда (АКФ) ЕврАзЭС, 295,8 миллиона по государственному экспортному кредиту России, предоставляемому для строительства АЭС на территории Беларуси. Также 142 миллиона долларов привлечено по кредитам банков Китая, 57,6 миллиона — по кредитам МБРР Всемирного банка. Погашение внешнего государственного долга с начала 2013 года составило 864,1 миллиона долларов. В том числе 692,3 миллиона было погашено в рамках выполнения Беларусью своих обязательств перед МВФ по кредиту stand by, 75 миллионов — по кредитам правительства РФ, 48,8 миллиона долларов — по кредиту Банка экономического и социального развития Венесуэлы, 43 миллиона — по кредитам банков КНР, 5 миллионов — по прочим внешним государственным займам. Внутренний государственный долг по состоянию на 1 июля 2013 года составил 30,5 триллиона рублей и вырос с начала года на 4,6 триллиона, или на 17,8%.

*(Окончание на 2-й стр.)*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА,*
*профессор,*
*доктор экономических наук*

# Поставили на счетчик

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Источники покрытия задолженностей разные. Если речь идет о валютных долгах, то это, прежде всего, экспортная выручка. Поэтому для страны весьма важно иметь положительное сальдо торгового и платежного балансов. Если эти балансы отрицательные, как сегодня у Беларуси, можно задействовать накопленные ранее золотовалютные резервы государства. Возможно занимать вновь, чтобы отдать подошедшие к погашению старые долги, то есть рефинансировать их. Можно договориться с кредиторами, чтобы отодвинуть сроки погашения. Иначе говоря, реструктуризировать долг. Для справки: торговый и платежный балансы Беларуси в текущем году в отличие от прошлого года стали пассивными, например, сальдо внешней торговли товарами за первые пять месяцев — минус 1,7 миллиарда долларов, сальдо платежного баланса — минус 1,8 миллиарда.

Собственных, т.е. гарантированных, источников покрытия предстоящих валютных платежей, а это в первую очередь, как отмечалось, экспортная валютная выручка, у Беларуси явно недостает. Ими можно погасить примерно половину долга. И экономические власти решили пойти по пути рефинансирования оставшейся второй части заимствований. С целью погашения долга МВФ в 3,6 миллиарда долларов и долга России в 3 миллиарда долларов, сделанных с 2007 года, Минфин Беларуси успешно разместил еще летом 2010 года пятилетние еврооблигации на 1 миллиард долларов в эквиваленте, а зимой 2011-го — семилетние еврооблигации на 800 миллионов. Попытки в дальнейшем разместить аналогичные ценные бумаги на азиатских рынках потерпели неудачу. Тем не менее, правительство решило пойти по пути ряда стран, в частности Украины, и попытаться перенести тяжесть погашения внешнего долга на внутренний. Минфин Беларуси начал размещать внутри страны свои государственные валютные облигации, в том числе и среди населения, чего оно никогда не делало. Первые продажи валютных государственных долгосрочных облигаций (ВГДО) прошли в целом успешно. Так, 25 апреля сего года на Белорусской валютно-фондовой бирже состоялся аукцион по размещению облигаций номинальной стоимостью 100 тысяч долларов с трехгодичным сроком обращения на общую сумму 50 миллионов долларов. А с начала года на внутреннем рынке страны было размещено валютных гособлигаций на сумму примерно 570 миллионов долларов, в том числе 100 миллионов долларов — среди населения.

Все бы ничего, но в ходе второго аукциона 23 июля на торгах при размещении облигаций на 50 миллионов долларов их было выкуплено лишь на 41 миллион. Пришлось объявлять о доразмещении остальных в иной день. Это первый признак того, что валютные возможности покупательной способности внутреннего рынка близки к исчерпанию. Но Минфин не унывает и планирует во второй половине года разместить валютные облигации среди внутренних инвесторов — юридических и физических лиц — еще на сумму 300—400 миллионов долларов. Причем, чтобы их купили, придется поднимать уровень доходности этих ценных бумаг до 7,5—8% годовых, что означает последующий рост расходов государства на обслуживание долга и дополнительную нагрузку на бюджет.

По подсчетам аналитиков, рост подобных внутренних заимствований может привести к опасности дефолта. В настоящее время Минфин размещает облигации со сроками обращения порядка 3—3,5 года. Примерно через 3 года наступит период массового погашения валютных облигаций, частично гасить необходимо и зарубежные ценные бумаги. В этой связи вспоминается приснопамятный 1998 год, когда российское Министерство финансов торжественно объявило дефолт по своим рублевым и валютным обязательствам. Народ тогда и узнал это слово, которое означает неспособность своевременно выполнить свои финансовые обязательства. Впрочем, не все так страшно с внутренним валютным долгом. Его можно реструктуризировать, то есть отсрочить. Или выплатить держателям облигаций вместо валюты родные рубли.

Как можно догадаться, способность любой страны обслуживать свой государственный долг зависит от множества внутренних и внешних факторов. Недавно представлена обновленная версия Концепции прогноза социально-экономического развития, которая предусматривает рост белорусского ВВП в 2014 году на 5,7% вместо ранее планировавшихся 9,6%. По мнению экспертов, пересмотр прогноза по росту ВВП в сторону более низкого значения является закономерным шагом в сторону здравого смысла. Основную часть этого также, заметим, трудно достижимого роста должен дать экспорт, который упал с начала года на четверть. Основной покупатель наших товаров — российский рынок. В июле рост российской экономики приблизился к нулю, за текущий год он вышел на 1,7% вместо планировавшихся 5%. Не помогает и допинг — нефтяная и газовая иглы. Только у России в отличие от Беларуси она своя. Там также с 30 до 32—33 российских рублей поднялся доллар. Поэтому перспективы роста белорусского экспорта весьма туманны.

Тем более что очень некстати удар под дых белорусскому экспорту нанес российский "Уралкалий". Он заявил, что отказывается от общей сбытовой политики с "Беларуськалием" в рамках Белорусской калийной компании (БКК). Толчком к этому послужил прошлогодний декабрьский указ белорусского президента о возможности экспорта белорусских удобрений помимо БКК. "Уралкалий" также начал экспортировать продукцию по собственным каналам. По сути, картель, который обеспечивал единую ценовую политику и держал свыше 40% мирового калийного рынка, развалился. Это сулит сторонам снижение мировых цен на их продукцию, так как каждая из них пойдет по пути наращивания физических объемов удобрений, чтобы компенсировать потери в валютной выручке. Но себестоимость продукции у "Уралкалия" одна из самых низких в мире. Как следствие, уже обвалились акции "Уралкалия", а за "Беларуськалий" вместо запрашиваемых 30—32 миллиардов долларов могут дать не более 15 миллиардов. Не будем забывать, что калийные удобрения — вторая по значимости валютная позиция белорусского экспорта.

Пока Нацбанку удалось замедлить девальвацию белорусского рубля с 0,6% в неделю до 0,3% в неделю. Удается удерживать золотовалютные резервы в пределах 8 миллиардов долларов. Однако с грядущим обвалом "калийных" цен, с исчерпанием возможностей внутренних валютных заимствований это равновесие станет еще более шатким. Чтобы справиться с долгами, придется либо девальвировать рубль, поддерживая экспорт, либо расходовать валютные госрезервы, либо приватизировать госсобственность, либо... А скорее всего, то и другое одновременно, то есть делать то, что глава государства не велел.

ПУЛЬС

## «Белгіпс» адыходзіць расіянам

Кіраўніцтва Беларусі ўхваліла рашэнне аб продажы дзяржпакета ў ААТ "Белгіпс" расійскай кампаніі "Волма".

Пра гэта паведаміў міністр архітэктуры і будаўніцтва **Анатоль Нічкасаў.**

Ён удакладніў, што гаворка ідзе аб продажы ўсяго пакета акцый, якім валодае дзяржава, — 99,5% акцый за больш як 5—7 мільёнаў долараў. Акрамя таго, ёсць дамоўленасць, што расійскі інвестар будзе пастаўляць на прадпрыемства сыравінныя кампаненты, гіпс, якога няма ў Беларусі, па сабекошце.

Праект прадугледжвае мадэрнізацыю дзеючай вытворчасці, а затым — будаўніцтва новага завода пад Мінскам з выпускам новай прадукцыі. Пляцоўка ў Мінску, якую зараз займае прадпрыемства, хутчэй за ўсё будзе забудавана таксама інвестарам. Так што не выключана, што ў гэтым кантракце мы маем проста новую форму продажу зямлі ў сталіцы. Бо ўжо занадта танна ацэнена прадпрыемства.

## Беларускія ўлады адбіраюць у юрыдычных асоб акцыі абутковага «Праменя»

У Беларусі ідзе праца па павелічэнні дзярждолі ў мінскім абутковым ААТ "Луч" — кіруючая кампанія холдынгу "Абутак — Прамень".

Яшчэ некалькі месяцаў таму яна складала 0,015 працэнта, аднак за кошт экспрапрыяцыі акцый юрыдычных асоб доля дзяржавы дасягнула 23 працэнтаў. Зараз ідзе праца па выкупе Мінгарвыканкамам акцый, з тым каб дзяржаве належала да 25 працэнтаў плюс адна акцыя, паведаміў першы намеснік старшыні канцэрна "Беллегпрам" **Сяргей Місурагін.**

Паводле яго слоў, канцэрн "Беллегпрам" таксама плануе ў бліжэйшы час дапрацаваць праекты нарматыўных актаў аб стварэнні ў Беларусі двух абутковых холдынгаў на базе прадпрыемстваў "Белвест" і "Марка".

## Здарэнне на борце самалёта

Самалёт рэйса Масква—Мінск вярнуўся ў Дамадзедава з-за дэбашыра.

П'яны дэбош, які не дазволіў нармальна правесці палёт, учыніў грамадзянін Расіі. Паводле слоў намесніка генеральнага дырэктара кампаніі "Белавія" Мікалая Чаргінца, п'янага грамадзяніна абясшкодзілі самі пасажыры.

## Лепей аб'ехаць

Рух транспарту ў раёне плошчы Перамогі ў Мінску 9—12 жніўня зноў будзе закрыты. Гэта звязана з выкананнем работ па капітальным рамонце праспекта Незалежнасці на ўчастку ад плошчы Перамогі да вуліцы Казлова.

Змены ў працу пасажырскага транспарту ўносяцца з 22.00 9 жніўня да 5.00 12 жніўня. Рух аўтобусаў будзе ажыццяўляцца па вуліцах Захарава, Першамайскай, З.Бядулі, Казлова і далей па маршруце.

ПРОИСШЕСТВИЯ

# Члена ЦИК зарезали в собственной квартире




Члена Центральной избирательной комиссии Светлану Хиневич обнаружили убитой в собственной квартире еще 4 августа.

Информация о гибели высокопоставленного чиновника появилась на сайте ЦИК четыре дня спустя.

— Светлану Хиневич обнаружил зарезанной дома ее сын, — сообщил "Салідарнасці" секретарь Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов Николай Лозовик. — Это произошло 4 августа. Я сам пытался выяснить подробности в органах, которые ведут расследование убийства. Задал вопрос следователю, попросил его рассказать детали в рамках дозволенного. Мне ответили, что следствие ведется и в его интересах не разглашать детали.

Светлана Хиневич родилась в 1959 году в Минске. В 1981 году окончила Белорусский государственный университет им. В.И.Ленина.

В декабре 2011 года была избрана членом Центральной комиссии по выборам и проведении республиканских референдумов. На тот момент она работала начальником управления кадров и идеологической работы ГУ "Главное хозяйственное управление" Управления делами президента.

В последнее время занимала должность начальника отдела по кадровой работе РУП "Минск Кристалл".

### ОФИЦИАЛЬНО

Убийство члена ЦИК Беларуси Светланы Хиневич не связано с ее профессиональной и общественной деятельностью.

Об этом заявили агентству "Интерфакс-Запад" в четверг в управлении Следственного комитета по Минску. *"Совершенное преступление не связано с профессиональной и общественной деятельностью потерпевшей и носит бытовой характер. Установлен подозреваемый",* — проинформировали в УСК.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Салдату, які збіў аднапалчаніна, прысудзілі 3 гады «страгача»

Прайшоў суд па справе аб нестатутных адносінах паміж вайскоўцамі. Гэта чарговая крымінальная справа ў беларускім войску, якая ўзбуджаецца з-за "дзедаўшчыны".

"Народная Воля" пісала ўжо аб жудаснай гісторыі, якая здарылася ў вайсковай часці 28-212, што месціцца ў сталічным мікраараёне "Уручча". Бойка паміж саслужыўцамі прывяла да трагедыі — адзін малады чалавек страціў здароўе, магчымасць паўнавартасна працаваць, а другі адправіцца за краты.

Канфлікт узнік на пачатку мая. Дваццацігадовы радавы **Дзяніс Шаламіцкі** вырашыў адчытаць саслужыўца, які знаходзіўся ў войску на паўгода меней. Незадаволенасць выклікаў той факт, што **Аляксандр Гаўруковіч** нібыта без дазволу адлучыўся ў "чайную" часці за цыгарэтамі. Варта адзначыць, што Гаўруковіч, які пайшоў у войска ў 26 гадоў, не павінен даваць ніякіх справаздач радавому. Між тым Шаламіцкі знайшоў яго ў сталовай, дзе Аляксандр быў у нарадзе і дапамагаў выносіць бачок з катлетамі для салдат.

"*Я не думаў, што будзе бойка*, — узгадваў пацярпелы. — *Я нават запытаўся, ці не хоча Шаламіцкі катлету...*"

Пачастунак салдату быў непатрэбны. Ён толькі запытаў у Аляксандра, ці сапраўды той выходзіў у "чайную". Атрымаўшы станоўчы адказ, нанёс моцны ўдар. Аляксандр паспрабаваў адказаць крыўдзіцелю, хлопцы абмяняліся некалькімі ўдарамі, але хутка іх разняў саслужывец. Інцыдэнт быў бы вычарпаны, але ўжо а сёмай гадзіне вечара Аляксандра забралі ў шпіталь. Стан яго пагаршаўся на вачах: адкрыўся крывацёк, прыйшлося выдаліць селязёнку.

Месяц Гаўруковіч правёў у шпіталі, тыдзень — у рэанімацыі. Сёння ён пастаянна адчувае боль, урачы кажуць, што такі стан яшчэ мінімум на год, пакуль іншыя органы не прымуць на сябе функцыі выдаленай селязёнкі. Да арміі Аляксандр працаваў на МАЗе, атрымліваў прыстойныя грошы — каля 12 мільёнаў. Зараз ён не ведае, ці зможа ўвогуле вярнуцца на працу. Бо нават сына на рукі ўзяць пакуль не можа — урачы забаранілі падымаць больш за 5 кілаграмаў.

Тым не менш падчас судовага пасяджэння пацярпелы заявіў, што дараваў Шаламіцкаму і не настойвае на суровым пакаранні. Куды больш яго цікавіла маральная кампенсацыя, якую ён папрасіў у памеры 85 мільёнаў рублёў (у дадатк да 5 мільёнаў, якія на лячэнне ўжо перадалі сваякі абвінавачанага).

Сам Дзяніс Шаламіцкі прызнаў сваю віну, заявіў, што зусім не хацеў наносіць такую цяжкую шкоду. Суд улічыў гэта ды добрую характарыстыку вясковага хлопца — да адміністрацыйнай адказнасці яго прыцягвалі ўсяго адзін раз і то за адсутнасць флікера. Адвакат прасіла прымяніць да абвінавачанага артыкул 70 Крымінальнага кодэкса і прызначыць яму пакаранне ніжэй за ніжэйшую мяжу, але суд вынес свой вердыкт: 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму і 30 мільёнаў маральнай кампенсацыі.

Гэта не першая гучная справа, якая ўспыхвае ў беларускім войску з-за "дзедаўшчыны". Некалькі гадоў таму адразу восем былых вайскоўцаў былі асуджаны за нестатутныя адносіны. Між тым афіцыйныя асобы рапартуюць, што "дзедаўшчына" выкаранена, а тое, што даходзіць да прэсы, — толькі адзінкавыя выпадкі.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## Уладзіміру Яроменку пагражае новы турэмны тэрмін

Суд над былым палітзняволеным Уладзімірам Яроменкам адбудзецца 19 жніўня. Актывіста незарэгістраванай арганізацыі "Малады Фронт" абвінавачваюць у парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду. Уладзімір Яроменак упэўнены, што справа скончыцца для яго рэальным турэмным тэрмінам.

— Два разы схадзіў на допыт. Адзін раз, калі знаёміўся са справай, яе накіравалі ў суд. І зараз выклікалі ў суд, каб аддаць павестку. Гэта новы турэмны тэрмін будзе. Я ўпэўнены ў гэтым, — гаворыць ён.

Уладзімір Яроменак быў асуджаны да трох гадоў зняволення па так званай справе аб масавых беспарадках 19 снежня 2010 года. У жніўні 2011 года яго вызвалілі на падставе ўказа прэзідэнта аб памілаванні. Пасля вызвалення актывіст неаднаразова браў удзел у палітычных акцыях, за што трапляў на суткі. Па гэтай прычыне за ім усталявалі прэвентыўны нагляд.

ПАДЛІЧЫЛІ

## І тут страты

Выручка Беларусі ад экспарту нафтапрадуктаў знізілася на 2 мільярды долараў.

Гэта лічбы за студзень—май, якія абнародаваў Нацыянальны статыстычны камітэт. Значнае зніжэнне выручкі тлумачыцца як скарачэннем фізічных аб'ёмаў экспарту нафтапрадуктаў, так і зніжэннем экспартных цэн (на 10,5% да 780 долараў за тону).

За пяць месяцаў бягучага года на экспарт было пастаўлена 6,529 мільёна тон нафтапрадуктаў, што на 20,1% менш, чым за аналагічны перыяд 2013 года. Экспарт у краіны па-за СНД знізіўся на 28,3% і склаў 4,579 мільёна тон, у краіны СНД вырас на 9% да 1,950 мільёна тон. У выніку даходы ад экспарту нафтапрадуктаў у краіны далёкага замежжа скараціліся на 1,959 мільярда (на 36,7%).

Нагадаем, што даходы ад экспарту нафтапрадуктаў у значнай ступені і вызначаюць памер дзяржаўнага бюджэту нашай краіны. Так што навіна ад Белстата вельмі трывожная.



ТЫМ ЧАСАМ

## Мінус 200 мільёнаў

Другой па значнасці галіной папаўнення бюджэту валютай з'яўляецца экспарт мінеральных угнаенняў. Як ацэньваюцца нашы магчымыя страты ў сувязі з "разводам" з асноўным партнёрам — "Уралкалием"?

Намеснік міністра эканомікі **Аляксандр Ярашэнка** нават не ўзяўся рабіць нейкія прагнозы.

*"Для нас гэта пакуль сітуацыя, што не пралічваецца, каб сказаць, як яна адаб'ецца на эканоміцы",* — канстатаваў намеснік міністра.

А вось што тычыцца падзення цэн на калій, то тут ужо ёсць канкрэтныя лічбы. *"Па факце мы на 200 мільёнаў долараў спрацавалі па калію горш з-за цэнавага фактару. Аб'ём павялічылі, але адбылося зніжэнне цэнавай сусветнай кан'юнктуры. Я магу назваць дакладную суму — на 208 мільёнаў долараў меньш у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года",* — сказаў Аляксандр Ярашэнка.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Белорусскую высшую школу могут спасти только реформы

Новости о вступительной кампании 2013 года больше походят на вести с поля боя, где белорусская система высшего образования проигрывает сражение за сражением. Низкие баллы абитуриентов на централизованном тестировании, недобор на бюджет при переизбытке претендентов на некоторые специальности — эти и другие явления показывают, что белорусская система высшего образования превращается в механизм по производству "корочек". Самое же печальное в том, что власти не спешат менять систему.

При этом чиновники любят козырять данными, согласно которым Беларусь входит в число самых образованных стран мира. Так, согласно исследованиям Всемирного банка, она находится на 26-м месте по уровню образованности. Однако вопрос в том, за счет чего страна оказалась в рейтинге так высоко. Места в нем присваивают за показатели, с которыми у Беларуси все в порядке: доля лиц с высшим образованием, количество обучающихся в вузах и т.д.

С количественными характеристиками у белорусского высшего образования никогда не было проблем. Динамика постсоветского периода впечатляет. Если в 1991 учебном году обучалось 188.000 студентов, то в 2001-м — уже 281.700, а в 2012-м — 445.600.

Итак, хотя за 22 года население Беларуси сократилось и доля молодежи в нем уменьшилась, студентов стало больше в два с лишним раза. Но дал ли такой рост хоть какую-нибудь пользу?

С одной стороны, высшее образование в Беларуси стало исключительно массовым и общедоступным, с другой — начало стремительно обесцениваться.

### На задворках рейтинга Webometrics

Подтверждением плачевного состояния белорусской высшей школы являются данные престижного всемирного онлайн-рейтинга университетов Webometrics. В нем самым лучшим из отечественных вузов является Белорусский государственный университет, но он занимает лишь... 639-ю позицию. Другие вузы страны не вошли даже в первую тысячу! Следующим в рейтинге белорусским вузом является Гродненский государственный университет, он расположился на 1861-м месте.

Стоит отметить, что в этом рейтинге Беларусь проигрывает соседям — России и Украине: лучший украинский вуз — Киевский политехнический институт — занимает 510-е место, а лучший российский — МГУ имени Ломоносова — 79-е.

Удручающе выглядят и результаты недавней вступительной кампании: уровень подготовки абитуриентов в целом низок; оценки, с которыми иные поступают, просто постыдны. В этом году 35,8% зарегистрированных на централизованном тестировании абитуриентов не преодолели порог, который варьировался от 10 до 20 баллов, то есть более трети не набрали минимальных баллов.

### Имитация не помогает

О кризисе отечественной высшей школы неоднократно заявляли эксперты, работающие в рамках инициативы ЕС "Европейский диалог о модернизации с Беларусью". Они же разработали предложения по реформированию вузовской системы.

Многие эксперты считают, что ситуацию могла бы улучшить реализация принципов Болонского процесса. В последнее время работа государства в этом направлении активизировались, и некоторые изменения сделаны, однако далеко дело не продвинулось.

Несмотря на все официальные заявления о готовности страны, в 2012 году Беларусь так и не была принята в Болонскую систему. Объясняется это просто: тех мер, на которые пошли белорусские власти, было попросту недостаточно для присоединения к системе. Все дело в том, что они были направлены не на реформирование самого образовательного процесса, а на изменение понятийного аппарата и терминологии, чтобы внешне система походила на Болонскую. Однако по сути это ничего не принесло, и система осталась прежней.

Получается, что чиновникам нужен лишь статус страны — участницы Болонского процесса для того, чтобы система образования выглядела более привлекательно в глазах ее денежных мешков — иностранных абитуриентов. Реформы же, которые предусматривает вхождение в Болонскую систему, властям не интересны.

Однако накопление проблем в системе высшего (и не только высшего) образования ведет к тому, что она уже больше не может работать в сложившихся условиях. Без реальных продуманных реформ дальше будет только хуже. Уже сейчас образование не исполняет своей главной задачи — подготовки квалифицированных специалистов, проявление этого — их нехватка во многих отраслях экономики.

### Вузам нужна свобода

Итак, белорусская система образования должна пройти по пути реформ, иного спасения нет.

Для того чтобы система образования начала развиваться, стала эффективной, в первую очередь необходимо понимать и осознавать требования рынка труда, то есть повернуться лицом к будущему нанимателю студентов. Именно рынок диктует, какие специалисты и с какими знаниями сегодня необходимы.

Эта информация позволяет определить, какие знания и как именно нужно преподнести студентам. Пока же белорусская система высшего образования далека от этого, все проходит по схеме "окончил университет, пошел на работу — учись заново", то есть, по сути, работодателям приходится переучивать выпускников.

Однако взаимодействие вузов и работодателей будет неэффективным без предоставления учебным заведениям финансовой и академической свободы. Сложившаяся ситуация — наглядный пример того, насколько неэффективно ручное управление системой образования сверху.

Сегодня Минобразования жестко регламентирует структуру и содержание учебных планов, учебных программ и даже последовательность их изучения. В итоге, когда вуз не уполномочен самостоятельно составлять программу обучения, определять количество бюджетных и платных мест на будущий год, возникает ситуация с недобором студентов, неэффективным процессом обучения и т.д. В такой системе отсутствует академическая конкуренция, так как нет стимулов к развитию.

Безусловно, важной стадией образовательного процесса является среднее образование, ведь именно школа ответственна за подготовку абитуриентов. Многие эксперты сходятся во мнении, что первым шагом могло бы стать введение ваучерной системы финансирования учебных заведений, то есть — на конкурентной основе. В экспериментальном режиме такая система была запущена в некоторых районах страны, однако пока это не принесло результатов.

Пошло бы на пользу и развитие сети гимназий, лицеев, но не видно, чтобы власти об этом всерьез задумывались.

**Никита БЕЛЯЕВ.**

